дэтва, зрабіў замах саматугам — бяз супольнікаў"...

Польскі ўрад адмаўляецца ад адказнасьці тым больш, што сам п. Войков адмовіўся ад сталай аховы яго асобы, якая істнуе для ўсіх іншых паслоў.

Але, ня гледзячы на гэта, Польскі ўрад, кіраваны найлепшымі пачуцьцямі і намерамі, гатовы найбольш прыхільна разглядзець дамаганьні ўраду СССР у справе адшкадаваньня сям'і забітага пасла, каб чым можна зьменшыць крыўду, якую зрабіла ей забойства.

### Цікаўнае запярэчаньне.

Агенцкія тэлеграмы паведамілі, быццам Чычэрын пры спатканьні з Штрэзэманам заявіў, што „замах на пасла Войкова не адаб'ецца на польска-радавых адносінах".

Цяпер нямецкія газэты зьмяшчаюць афіцыяльнае запярэчаньне Чычэрына: ён не казаў гэтага...

### Адозва англійскіх камуністаў.

Камуністычная партыя Англіі выдала адозву, у якой заяўляе, што кроў таварыша Войкова падае на галовы англійскіх міністраў.

### Тэлеграма кангрэсу англійскіх каапэратараў.

Кангрэс англійскіх каапэратараў выслаў каапэратывам СССР тэлеграму, у якой выражае жаль з прычыны забойства пасла Войкова.

### Англійская прэса аб забойстве.

Англійскія газэты ўсе бяз вынятку называюць „сьмешнымі" заявы маскоўскай прэсы аб тым, што адказнасьць за забойства Войкова кладзецца на Англію. Газэты, згодна з англійскай традыцыяй (?!), абураюцца проці ўсялякага палітычнага забойства, але дадаюць, што асоба Войкова, аднаго з арганізатараў забойства царскай сям'і, не выклікае ні ў каго, апроч бальшавікоў, асаблівага спачуцьця. Газэты пішуць, што ніякай сусьветнай змовы проці СССР няма. Папросту толькі сьвет пачынае вызваляцца ад бальшавіцкай заразы...

### Літоўскае афіцыяльнае агенцтва аб замаху на Войкава.

Літоўскае афіцыяльнае тэлеграфнае агенцтва зьмяшчае быццам атрыманую з Варшавы такую інфармацыю:

„Некатарыя газэты (ў Варшаве) надрукавалі гутарку з адным з паслоў Польскага Сойму, які заявіў, што забойства пасла Войкова з ведама II аддзелу Генаральнага Штабу (Польскага) дый зьвязана з падрыхтаваньнямі Пілсудскага да вайны з Радавай Расеяй. Пасьля забойства (быццам) мае наступіць напад на тэрыторыю СССР арганізаваных польскім Генаральным Штабам атрадаў Балаховіча і Пятлюры!!! Ня выключана ў далейшым і запраўдная вайна з СССР"...

Як на афіцыяльнае агенцтва, дык — цікаўна, тым болей, што... Пятлюра даўно ўжо ня жыве!

### Праводзіны цела Войкова.

10 чэрвеня ў палове 8-ай гадзіны раніцы з вялікай урачыстасьцю перавезена цела пасла Войкова на вакзал дзеля адсылкі ў СССР.

Прысутнымі, апрача прадстаўніка пана Прэзыдэнта Рэспублікі, былі прадстаўнікі польскага ўраду з віцэ-прэм. Бартлем на чале, ды ўвесь дыпляматычны корпус (паслы замежных дзяржаў) на чале з францускім паслом Ляроппам. У ўрачыстасьці прымалі ўчасьце войскі, якія стаялі сьцяной уздоўж усяго шляху да вакзалу і аддалі ваенныя ганоры нябожчыку. Каля 9 гадз. цягнік ад'ехаў у СССР.

Труну ў часе паходу нясьлі сябры радавага пасольства з радцай Ульянавым на чале. Праводзілі цела масы народу.

### Апошнія ганоры на граніцы.

ПАТ паведамляе, што цягнік з целам пасла Войкова быў спатканы на граніцы пачэсным караулам 87 палка польскай арміі і прадстаўнікамі мясцовых уладаў. Апрача таго, над цягнікам зьявілася эскадра паветранага флёту, якая маніфэставала ў чэсьць нябожчыка. Перадача труны радавым уладам адбылася афіцыяльна на ст. Коласава, дзе аркестры чырвонай арміі ігралі Інтэрнацыянал. Зараз адбыўся мітынг, на якім гаварыліся прамовы агітацыйнага зьместу...

### Дэманстрацыя варшаўскіх камуністаў.

У часе перавязеньня цела Войкова на вагзал паліцыя прыняла асаблівыя меры бясьпечнасьці. Але ўсё-ж не абыйшлося бяз выпадкаў. Камуністычная моладзь, як пішуць варшаўскія газэты, некалькі разоў зьбіралася ў некалькіх мясцох, старaючыся прарваць кардон паліцы, што акружала паход, ды выкрыківала розныя агітацыйныя лёзунгі ў зьвязку з забойствам Войкова. У рэзультаце—некалькі асоб крэпка пабіты—як з боку камуністычнай моладзі, таксама і з боку публікі. 10 асоб навет ранены.

### Хто будзе наступнікам Войкова?

Польскія газэты зьмяшчаюць чуткі, атрыманыя быццам з Масквы, аб тых кандыдатах, якія канкуруюць на месца радавага пасла ў Польшчы. Гэта—п. п. Лёрэнц, пасол у Латвіі, Стомоняков, сябра калегіі камісарыяту замежных спраў, Розэнгольц, які толькі-што выехаў з Лёндану, і Аралов, выдатны дыплямат СССР.

### Ці будзе дапушчаны прадстаўнік радавага ўраду да сьледзтва?

Як ведама, радавы ўрад у сваей ноце выразіў жаданьне, каб яго прадстаўнік быў дапушчаны да ўчасьця ў сьледзтве ў справе забойства пасла Войкова. На гэтае дамаганьне адказаў у гутарцы з амэрыканскім журналістам, едучы праз Бэрлін, мін. Залескі. Ен заявіў, што—на падставе істнуючых у Польшчы законаў — кожны пакрыўджаны мае права на беспасрэднае ўчасьце ў сьледзтве. „Польскі ўрад тлумачыць так шырока гэтае права, што прызнае пакрыўджанай у справе Радавую Дзяржаву. Дзеля таго прадстаўнік СССР Ульянов **будзе мець** магчымасьць прымаць учасьце у сьледзтве".

Трэба адзначыць, што толькі што польская прэса паведамляла — з афіцыяльных крыніц (?)—быццам урад згаджаецца дапусьціць да ўчасьця ў сьледзтве толькі **ўдаву** забітага пасла **дый то**—асабіста (?!).

### Якім судом будуць судзіць забойцу?

Трэба думаць, што забойцу пасла Войкова, Кавэрду, будуць судзіць звычайным, а не даразным судом. Даразны суд пагражае карай сьмерці. Звычайны суд дае магчымасьць шырэй і глыбей выясьніць палітычны бок справы, ды сувязь забойцы з яго супольнікамі, калі яны істнуюць... З другога боку, звычайны суд дае магчымасьці цывільнай позвы пакрыўджанай сям'і — аб адшкадаваньне.

Міністар Залескі ў тэй-жа гутарцы ў Бэрліне заявіў, што аканчальна „справу вырашыць пракурор ці суд". Трэба-ж думаць, што пракурор атрымае тады ад п. міністра „дырэктыву", якая пэўна-ж будзе мець і пэўны **палітычны характар**. А з вышэй падананага можна думаць, што радавы ўрад выразіць сваю заінтэрэсаванасьць якраз—у звычайным парадку судовай расправы.

У апошні мамэнт выясьнілася, што судзіць Кавэрду будуць даразным судом, які адбудзецца ў гэту сераду.

### Абарона Кавэрды.

Абарону Кавэрды, па просьбе яго маткі, узяў на сябе бясплатна віленскі адвакат Андрэеў.

# Расстрэл 20 манархістау у С.С.Р.Р.

Маскоўскае Радыё паведамляе:

Дзеля таго, што белагвардзейскія манархічныя арганізацыі перайшлі да тэрорыстычных актаў, калегія ГПУ пастанавіла расстраляць ніжэйпералічаных асобаў. Далей пералічаюцца 20 найбольш выдатных павадыроў розных процірадавых арганізацыяў, якія ў розны час былі арыштаваны і знаходзіліся ў вастрогах СССР. Сярод расстраляных ёсьць ведамыя афіцэры і генаралы царскай арміі, журналісты, адвакаты, дыплёматы. Першы у сьпіску стаіць стары дзеяч кадэцкай партыі, кн. Павал Долгоруков, які некалькі разоў, пераапрануты ў сялянскую вопратку, перахадзіў граніцу, езьдзіў па ўсяkаму СССР, ды ўрэшце папаўся.

Уся англійская, француская, нямецкая і іншая замежная прэса абураецца на гэты расстрэл бяз суда. Толькі камуністычныя газэты ў Нямеччыне называюць яго „актам абароны работніцкага ўраду". Радавая апазыцыя, як даносіць нямецкая прэса, таксама быццам пратэстуе проці ўзнаўленьня тэррору ў СССР у гэткай форме. Нямецкая-ж агенцтва даносіць з Масквы, быццам найвышэйшы ваенна-рэвалюцыйны Трыбунал загадаў ГПУ даставіць яму ўсе дакуманты, што датычаць справаў 20 расстраляных контр-рэвалюцыянэраў.

Найвышэйшы Трыбунал павінен быў зрабіць гэта перад выкананьнем праз ГПУ сваей пастановы, якая, як сцьвярджае навет прыхільная да Радаў замежная прэса, толькі маральна пашкодзіць у сьвеце СССР.

Камунікат маскоўскага Радыё падае гэткі сьпісак расстраляных:

1. Павал Долгоруков, б. князь, адзін з кіраўнікоў загранічных манархічных арганізацыяў, які нелегальна прыехаў у СССР праз Румынію.

2. Эльвэнгрэн, афіцэр, падгатаўляў разам з англійскім афіцэрам Рэйлі замах на Чычэрына, калі той праяжджаў праз Бэрлін на Гэнуэзскую Канфэрэнцыю.

3. Малевіч-Малевскі, афіцэр гвардыі, агент англійскай разьведкі ў Пэрсіі, высланы ў 1927 г. ў СССР дзеля шпіяніжу.

4. Еврэінов, б. консул, служачы Дзяржаўн. Банку, які даваў англійскаму паслу Годжсону ў Маскве інфармацыі.

5. Скальскі, які перадаваў інфармацыі аб ваеннай прамысловасьці ў СССР англійскаму агенту ў Фінляндыі Бунакову.

6. Попов, б. афіцэр, вярнуўся з Францыі з даручэньнем ад б. царскага пасла Маклакова—дзеля контррэвалюцыйных мэтаў.

7. Щэгловітов, сын генарала, займаўся шпіянажам для загранічных ваенных штабаў.

8. Вішняков, учасьнік манархічнае арганізацыі, якая была ў сувязі з эмігрантамі.

9. Сусалін, палк. арміі Врангеля, арганізатар няўдалага замаху на Красіна ў 1926 г.

10. Мураков, купец, які фінансаваў манархічныя арганізацыі ў СССР.

11. Павловіч, былы старшыня кіеўскай манарх. арган. „Двухгаловы Арол".

12. Нарышкін, б. афіцэр, сэкрэтна служыў некалькім чужаземным пасольствам ў Маскве.

13. Попов-Каратов, які прыехаў на Украіну разам з капітанам Урэнюком дзеля арганізацыі паўстаньняў.

14. Мікулін, камэргер і сябра Дзяржаўнай Рады (царскай), уласьнік кватэры, дзе хаваліся прыяжджаўшыя з—за-граніцы тэрорысты.

15. Лінев, б. афіцэр, працаваў па даручэньням сябры англійскай місіі Чэрнока.

16. Коропенко, кап. арміі Колчака, даваў ваенныя інфармацыі паўнамоцніку англійскага ўраду Годжсону ў Маскве.

17. Гурэвіч, рыхтаваў замах на Бухарына, Рыкова і Сталіна.

18. Мазурэнко, б. аф. арміі Колчака, даваў шпіёнскія інфармацыі англійскаму паслу Годжсону аб ваенным транспарце.

19. Анненков, ён-жа Махров, ён-жа Арсеньев, б. афіцэр арміі Юдзеніча, прыехаў у 1927 г. з даручэньня парыжскіх манархістаў.

20. Мешчэрскій, б. князь і абшарнік, кіраваў актыўнай працай на карысьць Мікалая Мікалаевіча.

### „Есаул Якаўлеў".

„Кур. Поранны" са слоў свайго віленскага карэспандэнта паведамляе, быццам мясцовая паліцыя выкрыла тэрорыстычную арганізацыю манархістаў, на чале якой стаіць даўно нейкі „Есаул Яковлев". Гэты Яковлев быццам карыстаецца вялікімі сымпатыямі з боку віленскай расейскай моладзі (?). Далей газэта піша, быццам гэты Яковлев „меў вялізарны ўплыў ды аўтарытэт сярод расейскай эміграцкай калёніі ў Вільні". Падробнасьці сьледзтва трымаюцца ў вялікім сэкрэце.

Так піша варшаўская газэта.

Што знайшла ці выкрыла віленская паліцыя, мы—дзеля „вялікага сэкрэту"—ня ведаем. Ведаем толькі, што Яковлев выпушчаны на волю, бо ў газ. „Слово" зьявілася „гутарка" з ім. Наскольні мы чулі, „Есаул Яковлев", які выдае сябе тут то за „палкоўніка", то за „камандзіра кавалерыйскай дывізіі", ніякага „ўплыву" ані „аўтарытэту" сярод паважных расейскіх кругоў ня мае.

# Маральная гніль.

Дзеля характэрыстыкі тэй атмасфэры, у якой павадыры расейскіх манархістаў узгадоўваюць расейскую моладзь,—падаем тут некалькі выняткаў з „Дзесяцёх Расейскіх Запавядзяў", пашыраных у нашым краю ў спэцыяльных лістоўках.

Хаця лістоўкі гэтыя—нікім не падпісаныя, аднак, заклік іх ісьці пад каманду „апошняга, пастаўленага законнай расейскай уладай, вярхоўнага глаўнакамандуючага расейскай арміі, вялікага князя Мікалая Мікалаевіча", паказывае, скуль яны йдуць.

У пятай „запаведзі" чытаем:

„Памятай, што Камісарская Улада Трэцяга Інтэрнацыянала ня ёсьць законная Расейская Улада, але ўлада інародцаў, самазванцаў і ашуканцаў. Яна зьмяніла самае імя Расеі, яна ненавідзіць усё расейскае. **Прысяга дадзеная ей — ня прысяга.** Яна ня мае вагі перад Богам і сумленьнем"...

А вось яшчэ больш характэрная шостая „запаведзь":

„Памятай, што партыя камуністаў — твой закляты вораг. Яна ашукала і закавала ў ланцугі Расею. **Кожын шчыры і запраўдны камуніст** у тваіх вачах—**вонках закону.** Хай будзе ён табе, бы шалёны зьвер. **Забіць яго—граху няма**"!

Ня дзіва, што — пад уплывам такога „маральнага ўзгадаваньня"—растуць душагубы, якія лічаць, што забіць ідэйнага — **і асабліва ідэйнага**—палітычнага ворага—ня грэх! Мо' дзіва тое, што падобная „літэратура" свабодна пашыраецца па ўсім нашым краю....

# Барыс Кавэрда.

7-га чэрвеня с. г. Барыс Кавэрда забіў радавага пасла ў Варшаве Войкова. Гэта вестка летам маланкі абляцела ўвесь сьвет.

Усе краёвыя і загранічныя газэты амаль аднадумна выказалі свае абурэньне з прычыны гэтага ганебнага забойства.

На вялікі жаль, некаторыя газэты карысталіся ня зусім дакладнымі інфармацыямі, характэрызуючы забойцу, як змагара і барацьбіта за царскую Расею.

Хай-жа жменька сабраных намі данных аб асобе забойцы праліюць крыху сьвятла на тую гнілую атмасфэру, у якой нарадзілася, узгадавалася і... зьдзейсьнілася думка аб злачыньстве.

Таварышы Кавэрды па беларускай гімназіі памятаюць яго, як добрага, здольнага і стараннага вучня. Цяжкое матар'яльнае палажэньне змушае Кавэрду кінуць гімназію і пайсьці на службу ў клюб Валэйшы. Там ён днём працаваў у рэдакцыі „Грамадзкага Голасу", а ночай пальнаваў у клюбе пры дзьвярох, каб у пару папярэдзіць аб паліцэйскай небясьпецы гульцоў, якія ў зачыненых кабінэтах гулялі ў газардовыя гульні.

Калі гэтак-званае „Грамадзянскае Сабраньне" разам з „Грамадзкім Голасам" перайшло ў рукі Павлюкевіча, да яго перайшоў і Кавэрда. Тут Кавэрдзе выпала на долю трудная задача: „раздабыць" якім-хоч спосабам з рэдакцыі „Змаганьне" адрасы падпішчыкаў гэтае газэты — для Павлюкевіча. Спрытнасьць, якой была выканана гэна задача, зварачое ўвагу Павлюкевіча на Кавэрду, і апошні хутка стаецца як-бы ад'ютантам Павлюкевіча. Кавэрда з экспэдытара газэты робіцца карэктарам, чуць-што не тэхнічным рэдактарам і асабістым сэкрэт. Павлюкевіча.

Кавэрда ўвесь з галавой акунуўся ў тым балоце маральнай гнілі і дэмаралізацыі, якая панавала ў абозе казённых паляпафілаў Павлюкевіча. Там яму прышлося стыкацца з цэлай масай розных падазроных тыпаў, якіх расейская рэвалюцыя выкінула за борт жыцьця. Былі там здэгенэраваныя царскія афіцэры, палкоўнікі, навет і генаралы, якія па ўтраце цара-таты таргавалі сабой, сваімі пераконаньнямі, сумленьнем і чым хочаце, ды ня цураліся самай агіднай „работы", абы „чэсна" зарабіць *„рюмочку водки"*. Былі там і балахоўцы, і савінкоўцы, і калчакоўцы, і дзенікінцы, і врангельцы і ім падобныя элемэнты. Павлюкевіч, сам расеец, спрытна падшываецца пад беларускае імя і творыць з гэных „былых людзей" (пераважна расейцаў) гэтак-званую „палянафільскую" групу, называючы яе перш „Тымчасовай Беларускай Радай", а пасьля „Нацыянальнай Радай", дый выдае палянафільскі лісток „Грамадзкі Голас", перайменаваны пасьля на „Беларускае Слова", якое час ад часу выходзіць і цяпер. У газэце сваей Павлюкевіч дзіка нападае на ўсе беларускія ўгрупаваньні, а з асаблівай заядласьцяй на „Грамаду". Пасьля выхаду Друцкага-Падбярэзкага і Кабычкіна са складу рэдакцыі, Павлюкевіч застаецца толькі з Кавэрдай, які перакладае на беларускую мову ўсе тыя артыкулы, якія піша папольску і парасейску нечая спрытна ўкрытая рука, сыстэматычна вядучы проці-беларускую пагромную працу.

У мінулым годзе выходзіць у Вільні родная сястра „Беларускага Слова"—„Новая Россія", друкаваная парасейску з моцным „палянафільскім" пахам. Абедзьве гэты газэты друкуюцца ў аднэй друкарні „Nowoczesnej" (на Біскупскай вул. № 12). Вось там стыкаецца малады Кавэрда з рэдактарам „Новай Россіи"—Яковлевым. Працуюць у адным карэктарскім габінэце. Там знаёміцца Кавэрда з разнароднымі тыпамі „бывших людей" — з расейскага абозу, бадай выключна манархістамі. Вось, тут і пачаў чэрпаць сабе Кавэрда натхненьне да свайго „вялікага", „напалеонаўскага дзела".

Будучы вельмі далёка ад тых кругоў, якія праз чатыры гады акружалі Кавэрду, мы на вялікі жаль ня можам падаць фактаў бліжэйшай лучнасьці Кавэрды з манархістамі, але, што такая лучнасьць паміж Павлюкевічам, Кавэрдай і Якавлевым істнавала, аб гэтым гаворыць шмат чаго. Гэтак, напрыклад, Павлюкевіч быў зацікаўлены, каб якаўлевічаўская „Нова Россія" выходзіла ў свой час і навет часта затрымліваў сваю газэту, дбаючы аб тое, каб манархістычная „Новая Россія" ня спозьнілася з выхадам у сьвет. У часе канфлікту Павлюкевіча з наборшчыкамі газэты ён хацеў перанесьці друкаваньне газэты „Беларускае Слова" ў другую друкарню, але ставіў варунак абавязкава перанесьці туды і „Новую Россію". І дарэмна Павлюкевіч тлумачыўся перад карэспандэнтам польскае манархістычнае газэты „Słowo", што: „przekonaniami politycznemi Borysa (Кавэрды) nikt się z nas nie interesował. Uważano go za młodego chłopca". „Ведае кот, чые сала зьеў, і хвастом круцe", — гэтак і Павлюкевіч. Калі малады Кавэрда і запраўды ня меў палітычных перакананьняў, дык Павлюкевіч і Якавлев пастараліся накінуць яму свае „перакананьні". Ніхто іншы як „Беларускае Слова" і „Новая Россія" запалілі маладога Кавэрду да „героическаго подвига за порабощенрую Россію", якой, праўду кажучы, ён зусім ня знаў і якая яму, не павінна была быць дорага, бо Кавэрда калі і быў у Расеі, дык быў зусім яшчэ хлапчуком гадоў трынадцацёх.

Каб як найлепш выкарыстаць Кавэрду і зрабіць яго аружжам дзеля сваіх мэтаў, яго пастараліся перадусім здэмаралізаваць фізычна і духова. Тая атмасфэра, якая панавала сярод паўлюкевічавых „палёнафілаў", была для гэтага як найлепшым срэдзтвам. Кожнаму ведама, з якога элемэнту складалася рэдакцыя „Беларускага Слова": панаваў там вечна п'яны чад. У мінулым годзе, калі паўлюкевічава рэдакцыя мясьцілася ў готэлі Сакалоўскага, аб некатарых сябрах рэдакцыі сярод віленскага грамадзянства ходзіць шмат жаклівых апавяданьняў. Ізноў-жа ў гэтак званай „Беларускай Хатцы", дзе абыгрываюць людзей у лёто, Кавэрда, як пісала „Виленское Утро", часта выігрываў вялікія стаўкі. І так памаленьку, але няўхільна дэмаралізаваўся, пакуль не апусьціўся да сяньняшняга стану...

Гэтая атмасфэра й падыктавала Кавэрдзе думку аб забойстве радавага пасла, і ў рукі яго ўлажыла рэвальвэр. Мо' ў гэтым бачыў ён выхад з свайго маральнага заняпаду? На гэта хіба сам ён адкажа — на судзе.

М.

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Англійская эскадра ў Гдыні.

У польскі порт Гдыню прыбыла англійская эскадра ў лічбе 5 ваенных караблеў малых разьмераў.

### Што будзе з пазыкай?

„Роботнік“ піша, што польская прэса, заняўшыся справай забойства радавага пасла, зусім забылася аб пазыцы, якая ўжо мела быць даўно падпісана абедзьвюма старонамі... Чамусьці ж справа ізноў неяк адкладаецца. Газэты падалі, што, замест таго, каб падпісаць умову ў Варшаве, як гэта, здавалася, было пастаноўлена, (бо ж дзеля гэтага і прыехалі ў Варшаву з Парыжу паўнамоцнікі банкіраў),—цяпер як гэтыя паўнамоцнікі банкіраў, так і паўнамоцнікі Польскага Банку ізноў 10 чэрвеня паехалі ў Парыж... Ці падпісана нарэшце ўмова, ці не?!

### Зьезд „Вызваленьня“.

У Варшаве абдыўся кангрэс партыі „Вызваленьня. З прамоваў аратараў ды прынятых ужо ў першы дзень рэзалюцыяў віддаць вялікае расчараваньне навет і гэнае партыі адносна да сучаснага ўраду.

Рэзалюцыі сцьвярджаюць, што ўрадавая „барацьба з партыйнасьцю“ шкодзіць на практыцы толькі левым партыям. Але адначасна з гэтай „барацьбой з партыйнасьцю“ ўрад сам творыць новыя партыі, прыхільныя да сябе, бо такіх сярод істнуючых — амаль што няма. Боручыся з лявіцай урад акружае асаблівай апекай ды аховай розныя свае партыі, навет—кансэрватыўныя, навет — манархічныя...

У рэзультаце кангрэс даручыў управе і клюбу „больш крытычна аднасіцца да ўраду“. Кангрэс трэбуе роспуску Сойму і новых выбараў у загаданы законам час—паводле нязьмененай ордынацыі, згаджаючыся толькі на зьмену, якая дазваляе рабіць „саюз кандыдацкіх сьпіскаў“.

## Заграніцай.

### Спатканьне Залескага з Брыянам.

Прыехаўшы ў Парыж, мін. Залескі зараз жа быў прыняты, разам з польскім паслом Хлапоўскім, мін. Брыянам, ды меў з ім вельмі важную гутарку. Гутарка датыкала магчымых палітычных пасьледзтваў забойства пасла Войкова і справы нямецкіх крэпасьцяў на польска-нямецкай граніцы.

### Спатканьне Чычэрына з Штрэзэманам.

7 чэрвеня ў Бадэн-Бадэн прыехаў Чычэрын. Спатканьне яго з Штрэзэманам мела адбыцца ў вечар таго ж дня.

### Прамова Ворошылова.

На сабраньні работнікаў Ворошылов сказаў прамову, у якой паміж іншым заявіў:

„Англія пасьля разрыву дыпляматычных зносінаў з СССР павінна была-б абвясьціць вайну СССР. Але англійскі ўрад ашукаўся ў сваіх спадзяваньнях. У рашучы мамэнт буржуазныя дзяржавы, на якія рахавала Англія, ашукалі яе надзеі. Нямеччына, Францыя, Італія, Польшча, Балтыцкія дзяржавы—самі азначалі сабе адносіны з СССР, але адмовіліся ў кожным разе датарноўвацца да плянаў англійскай палітыкі. Але, ня гледзячы на гэта, англійская буржуазія не паклала ані рук, ані аружжа. — Ня сёньня ані заўтра, трэба думаць, вайна не ўзгарыцца. Але падзеі разьвіваюцца з такой хуткасьцяй, што мы павінны быць прыгатаваны да ўсялякіх магчымасьцяў, якія рыхтуе нам будучына“...

### Праверка баявое здольнасьці чырвонай арміі.

Нямецкія крыніцы кажуць, што віцэ-старшыня Военна-Рэвалюц. Рады Каменев атрымаў даручэньне зрабіць праверку баявое здольнасьці часьцей чырвонай арміі. Кожная часьць павінна зараз-жа паведаміць, чаго ёй нехапае дзеля таго, каб яна магла безадкладна выступіць у паход... Гэты загад выклікаў чуткі аб блізкасьці мабілізацыі. Паводле Тухачэўскага, чырвоная армія, змабілізаваўшы толькі 4 малодшыя гадавікі, будзе мець 2 міл. 300 тыс. чалавек.

### Забойства старшыні менскага Г.П.У.

З прычыны забойства пад Менскам старшыні менскага Г.П.У. Опенскага, Радавы Урад аб'явіў Менскі вокруг на палажэньні ўсіленнай ахраны.

### Суд над польскімі шпіёнамі.

4 чэрвеня ў менскім судзе разглядалася справа 2 палякоў з мястэчка Плешчаніцы, якіх вінавацілі ў супрацоўніцтве з польскай разьведкай. Абодва засуджаны на 10 гадоў цяжкага вастрогу.

### Гіндэнбург мае адмовіцца ад прэзыдэнцтва

Венская прэса паведамляе, быццам Гіндэнбург пастанавіў 20-га кастрычніка у дзень, калі яму скончыцца 80 гадоў, злажыць з сябе прэзыдэнцтва.

### Ізноў крызіс ураду ў Румыніі.

Толькі-што створаны—па загаду караля габінэт Штырбэя, як пішуць газэты, — зусім няжыцьцяздольны. Старшыня ўраду ня здолеў навет набраць у свой габінэт поўнага складу міністраў. І Урад, які—па думцы караля—павінен быў абыймаць усе партыі, адмовіліся ўвайсьці павадыры найвялікшых з іх. Газэты, пішуць, што Штырбэй мае зараз-жа выйсьці ў адстаўку, а новы ўрад мае тварыць стары выпрабаваны ў часе вайны спрытны круцель-палітык Братыяну.

### Кітайская хатняя вайна.

З Шанхаю паведамляюць, што паўдзённыя арміі ізноў здабылі вялікую перамогу над арміямі Чанг-Тсо-Ліна. Пасьля крывавага бою, які трываў 36 гадзінаў, нацыянальныя арміі адкінулі паўночную армію і занялі важнае места Хан-Чэанг. Паўночная армія палажыла на месцы бою некалькі тысячаў забітых і раненых.

Уплыў павадыроў паўдзённых арміяў расьце на ўсей поўначы, ня гледзячы на страшэнны тэрор з боку Чанг-Тсо-Ліна...

### Цікаўная гутарка Чанг-Кай-Шэка.

У гутарцы з прадстаўнікамі прэсы Чанг-Кай-Шэк заявіў, што ён ідзе разам з чырвонымі ўладамі Ханькоў толькі на ваенным, але не палітычным фроньце. Ен мае надзею, што ханькоўскі ўрад сам з часам пазбудзецца бальшавіцкіх дарадцаў ды задушыць у сябе камунізм... Пасьля гэтага будзе магчыма і палітычнае аб'яднаньне абодвух крылаў Куо-Мін-Тангу (Нацыянальнай Партыі).

Сам Чанг-Кай-Шэк у сябе ліквідуе ўсе камуністычныя арганізацыі, заклікаючы ўстрымлівацца ад усякіх нападаў на чужаземцаў.

Толькі вось паглядзім, што запяе гэты Чанг-Кай-Шэк, калі яго войскам, злучаны з ханькоўцамі, прыдзецца пад Пэкінам, Цянь-Дзінам ды Мукдэнам ваяваць ня толькі з кітайскімі войскамі Чанг-Тсо-Ліна, але і з рэгулярнымі войскамі Японіі ды Англіі...

# Як адбываюцца гмінныя выбары.

Сучасныя выбары гмінных самаўрадаў адбываюцца на падставе распараджэньня Генаральнага Камісара Усходніх Зямель з 1919 году. Падаем тутака галоўныя пункты гэтага распараджэньня.

Гмінны самаўрад складаецца з войта і радных, лічба якіх складае $^{1}/_{10}$ частку лічбы сяброў валаснога сабраньня.

**Гмінны самаўрад выбіраецца гмінным сабраньнем**, якое творыцца гэтак:

Кожная гміна дзеліцца на выбарныя абводы галасаваньня. У абвод уваходзе памагчымасьці адна вёска, фальварак, ці асада, але можа ўваходзіць і больш, або вёскі могуць быць дзелены на два і больш абводаў.

**Кожны абвод выбірае сваіх дэлегатаў у гміннае сабраньне.** Лічба сяброў гміннага сабраньня мусіць быць ня менш 100 і ня больш 150. Лічбу сяброў гміннага сабраньня, якую выбіраюць абводы, вызначае павятовы камісар.

Калі ўжо выбраны ўсе сябры гміннага сабраньня, дык назначаны адміністрацыяй гмінны выбарны камітэт абвяшчае дзень і гадзіну, калі мае адбыцца гміннае сабраньне.

Сабраўшыся, сябры гміннага сабраньня выбіраюць **Гмінную Раду**. Выбары — роўныя, тайныя і прапорцыянальныя, галасаваньне адбываецца не на паадзінокіх кандыдатаў, **а на сьпіскі кандыдатаў.**

Пасьля адчыненьня сходу старшынёй гміннага выбарнага камітэту, старшыня гэны тлумачыць падставы выбараў, а тады абвяшчаецца перарыў дзеля **укладаньня і падачы сьпіскаў.**

Сьвядомыя сяляне павінны быць да гэтага **падгатаваны загадзя**, згаварыўшыся наперад аб кандыдатах. **Лічба кандыдатаў павінна быць ў паўтара раза большая, чым лічба выбіраных радных.** Калі на сьпіску менш кандыдатаў, яго ўневажняюць.

Сьпісак маюць права падаць **кожныя пяць сяброў гміннага сабраньня**, якія мусяць пад ім падпісацца. За няпісьменных на іх просьбу падпісвае сьпісак у іх прысутнасьці старшыня гміннага выбарнага камітэту.

На сьпіску трэба напісаць **імя і прозьвішча** кожнага кандыдата, ягоны **век** (колькі мае гадоў), **чым займаецца і дзе жыве.** Кандыдатаў трэба **панумараваць** парадкавымі нумарамі.

Пасьля падачы такіх сьпіскаў старшыні гміннага выбарнага камітэту, апошні правярае, ці кандыдаты карыстаюцца выбарным правам і ці маюць 25 гадоў. **Добра**, каб кожны меў з сабой дакумэнт, які сцьвярджае ягоны век. Калі-б гмінны выбарны камітэт забракаваў які сьпісак, падаўцы яго могуць яго замяніць, ці зьмяніць у ім забракаванага кандыдата.

Усе паданыя і прызнаныя важнымі кандыдацкія сьпіскі нумаруюцца гмінным выбарным камітэтам, і ўжо **на нумары падаюцца галасы выбаршчынамі** — сябрамі гміннага сабраньня. Картачкі з нумарамі мусіць даць кожнай групе выбаршчыкаў, якая выставіла свой сьпісак, старшыня гміннага выбарнага камітэту. Гэтыя нумары бяз ніякіх дапісак і падпісаў укладаюцца ў канвэрт і падаюцца старшыні. Кожын выбаршчык павінен мець пры сабе дакуманты, сцьвярджаючыя ягоную асобу, каб старшыня ня мог яго аддаліць ад выбараў.

# „Зямельная рэформа“.

„Роботнік“ піша:

„Год прайшоў ад часу маёвага перавароту, але справа зямельнай рэформы — ня рушылася з месца. Дык як-жа яна магла зрушыцца з месца, калі ў урадзе сядзяць яе заклятыя ворагі? Жыцьцё ня жджэ. Польшча—адзіны край, які дагэтуль захаваў у сябе перадваенныя зямельныя стасункі. З кожным месяцам труднасьці растуць, задача вырастае да аграмадных разьмераў, кідаючы цень на ўсё жыцьцё Польшчы“. Год прайшоў дарэмна; сялянскія і работніцкія масы страцілі зусім веру ў тое, што іх лёс палепшыцца з рук „маёвага ўраду“... Як ведама, мін. Станевіч заявіў, што да зямельнага закону 1925 г. трэба сьпярша апрацаваць аж 88 „выканаўчых распараджэньняў“... А на гэта-ж патрэбны час... А пакуль-што—„маем спэкуляцыйную парцэляцыю, якая стварае безрабоцьце на вёсцы, абапертае на крыўдзе батрацкай“. Гэтая парцэляцыя, якую гэткім чынам падтрымлівае ўрад, касуе запраўдную зямельную рэформу, як задачу сацыяльную, што мае паправіць дабрабыт шырокіх безьзямельных і малазямельных масаў.

„Палітыка Нясьвіжа была магільным камянем для зямельнай рэформы. Але камень гэты адваліць сам народ“...

У тэй-жа газэце ня так даўно п. Навіцкі паказаў, да чаго вядзе гэтая пратэгаваная, ці ў лепшым выпадку — талераваная ўрадам „спэкуляцыйная парцэляцыя“. З зямлёй—ад 1925 г., асабліва-ж у апошнія часы, творыцца запраўдная вакханалія. — Цэны на зямлю растуць так, што ад паловы 1925 г. яны ўзрасьлі наагул на 150 прац., ці—**ў два з паловай раза!**

П. Навіцкі кажа: „адносная лёгкасьць здабыцьця дзяржаўнага крэдыту„ (дзе гэтая „лёгкасьць“, аб гэтым у нас беларускі земляроб ня ведае!) сама сабой, павялічаючы лічбу ахвотнікаў-кандыдатаў на зямлю, падбівае ўгару цэны. Але з прычыны таго, што ня выконываецца закон, які нармуе цэны зямлі ды ахоўвае—ў пэўнай слабой меры — правы на яе малазямельных і безьзямельных, дык — вясковыя багатыры кулакі, якія ня маюць права на набыцьцё зямлі, даюць за яе такія цэны, што зусім зьбіваюць канкурэнцыю „ўпраўненых законам набыўцоў“... Аўтар кажа, што ён ведае выпадкі, калі сяляне ня толькі плацілі абшарнікам вымаганую імі цану за зямлю, але ўдадатак—апрача таго—аддавалі яму-ж і атрыманыя з Дзяржаўнага Зямельнага Банку пазыкі... Поўная самаволя абшарнікаў, якія, як ведама, заўсёды мелі пад сваімі магутнымі ўплывамі амаль ня ўсе Зямельная ўстановы на мясцох, „пералічыла“ мясцовыя цэны ў злотых—„на золата“, гэта значыць; замест злотых па сучаснаму курсу, абшарнікі бяруць „па курсу Грабскага“—лічучы па 5,18 зл. за даляр... Гэтае „пералічэньне“ адразу падняло цэны амаль не ўдвая. І вось, мясцовыя „Зямельныя Ужэнды“ і цэнтральныя ўлады дапускаюць і гэта. Дык, як сцьвярджае аўтар,—ня толькі дапускаюць, але і самі даюць прыклад такой зусім недазволенай законам спэкуляцыі. Сам Дзярж. Зямельны Банк, набыўшы для парцэляцыі маёнтак у Кутнаўскім павеце, сьпярша абвясьціў, што будзе прадаваць зямлю па 400—600 злот., а калі пачаў парцэляваць, дык жадаў ужо па 800 — 900 зл... А прадаваў дык ажно па 1000—1100 зл. за гэктар! Але і гэта не канец, бо, калі Банк пачаў рабіць рахункі, дык „пералічыў“ сучасныя абяговыя злотыя (па курсу 8,90 за даляр) на „злотыя ў золаце“ (па курсу 5,18). Гэткім чынам зямля падскочыла да 1700 — 1900 злот. за гэктар!—І ўсё-ж зямля раскупляецца. Але, ведама ж, купляецца толькі такімі набыўцамі, якія могуць плаціць гэткія ліхвярскія цэны... Вясковая бедната, мала- і без-зямельнікі, астаюцца без зямлі... „Зя-

# Тры агні.

То ня зоры мігцяць
У небасхіле тускнеючы,
То далёка зігцяць
Тры агні, чырванеючы.
Загарэліcь яны,
Калі сілай цудоўнаю
Дакрануліcь зямлі
Сьлёзы люду працоўнага,
Калі першы з грудзей
Выйшаў енк пад няволяю,
Калі сьлёзы з вачэй
Пацяклі пад нядоляю.
Увакруг тых агнёў
Цемра — ймгла рассьцілаецца,
І павеў халадоў
Ад яе разьлятаецца.
Чуць дарога відна, —
Быццам вуж, вывіваецца,
Праз сірочы паля
Да агнёў прыбліжаецца.
Па дарозе народ
Грамадой пасуваецца
Упярод, упярод...
На агні прыглядаецца.
То ня зоры мігцяць
У небасхіле тускнеючы,
То далёка зігцяць
Тры агні, чырванеючы.
Не патухнуць агні,
Тыя зоры цудоўныя,
Покі будуць ісьці
Па дарозе працоўныя.
Не патухнуць агні,
Покі гнёт над працоўнымі,
Покі будуць яны
Вам, паночкі, ня роўнымі!

Улад. Ініцкі.

# Дзьве дарогі.

Марка ехаў з малога мястэчка, дзе арганізаваў пасольскі мітынг. Меў прыехаць адзін з тых паслоў беларусаў, што цяпер пакутуюць у найцяжэйшым вастрозе ў Польшчы—Вронках. Але мітынг не адбыўся: ня было пасла, — і колькітысячная грамада сялян пачала разыходзіцца.

Быў пачатак зімнае вясны. Марка ехаў. Ен быў пахмурны, нездаволены. Ясна, што за ім сягоньня сачылі, — але ці толькі сягоньня? Ці сягоньня, ці праз месяц, ўсё роўна пасадзяць у клетку. Марка ведаў, што так будзе. Але гэта яго ня пужала.

Бушаваў шалёны вецер, каплі дажджу са сьнегам хлясталі прост у твар Марку, але ён навет ня хіліў галавы. У яго галаве праносіліся думкі аб другім. Вось ён малады, з гарачай душою, аддае ўсё, што можа, гаротнай сваей Бацькаўшчыне і таму сярмяжнаму народу, што церпіць і цярпеў праз векі. Думаецца яму, што многа, многа другіх такіх-жа хлапцоў працуе так, як ён, іх ня відна цяпер, але работа іх шчырая відаць, хто не сьляпы — бачыць. Вёска наша цікавіцца газэтай, чуваць „Ад веку мы спалі“. Прачынаецца Беларускі Працоўны Народ! І ўсе старыя думкі аб сабе, аб тым, што яго, маладога хлопца, могуць пасадзіць у турму не сягоньне, дык заўтра, — прапалі. Думалася аб магучай творчай сіле працоўнага Народу і было радасна, хацелася жыць, хацелася працаваць, сваё „я“ выкінуць і аддаць яго вялікаму магутнаму „Я“ Народу, ды толькі ім адным жыць! А вецер заглядаў проста ў вочы Марку, і здавалася, што стараўся пахіліць яго голаву. Радасна было ў думках Маркавых, хацелася змагацца з ветрам, хацелася вялікае барацьбы. Дзьміце, ветры! Шуміце, буры! Але зламаць можаце толькі крохкую асіну, а моцных дубоў, што растуць магутным лесам, вам з каранём не павырываць! Дарэмная праца!

Радасна нясьліся ў шырокую даль з ветрам гукі песьні: „...Мы знаем, што трэба рабіць“... Даведаліся ўжо!

Марка ехаў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Арышты. Дэфэнзыва. Доўгія гады вастрогу...

Доля Маркі была такая, як і многіх другіх сыноў вёскі і места Беларусі: разам ходаліся, разам цярпелі.

Хто не сядзеў у вастрозе, той ніколі ня дасьць веры, што ў турме больш гарачае і кіпучае жыцьцё, чым на волі. Думкі, праўда, ня маюць граніцы,—у думках можна ляцець усюды; але за тое дзеяльнасьць чалавека павінна адбывацца ў пэўных цесных рамках, і тая энэргія, што разыходзілася-бы на волі на ўсе бакі, — тутака, у турме, ня выходзіць за чатыры сьцяны. Што дзень трэ' было змагацца за сваё права палітычных вязьняў. Узьнімаліся галадоўкі, падчас якіх цяжка было таму вязьню, на якога хтось з вартаўнікоў меў вока... Але кожную барацьбу Марка сустракаў з радасьцю; едучы на барацьбу, ён ніколі і ў думках навет ня меў, што ходаньне будзе зламана, — ён верыў толькі ў перамогу. Чым больш прыхадзілася змагацца, тым ляпей гартаваліся ўсе: толькі шкло ламалася, а сталь крэпчэла і ставалася цьвёрдай, нязломнай.

Марка з вясковага хлопца за гады турмы перарабіўся ў сьвядомага барацьбіта. Ен быў той стальлю, што ў бурах, у вагні набірае вялізарнае моцы. Але турма, галадоўкі, зрабілі сваё. Чырвоны твар вясковага хлопца пабялеў, колькі ў боках часта не давалі спаць, аднак малады арганізм шмат часу ходаўся з хваробай. Марка захварэў на скрацечныя сухоты. А калі ўжо асталося жыць толькі некалькі месяцаў, выйшаў з вастрогу—уміраць!..

Людзі кажуць, што цывілізацыя нічога ня варта. Няпраўда! Гатэнтоты сваіх палонных ня мучылі—адразу елі і ўсё. А цяпер? цяпер ня тое: пускаюць уміраць—на волі!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Марка зноў ехаў. Тая самая дарога, што й колькі гадоў назад, ізноў сьцюдзёная вясна—і апошняя ў яго жыцьці. Вецер-свавольнік дзьме прост у вочы Марку.

...Успомнілася Марку, як колькі гадоў назад ехаў ён малады, здаровы, з вялікай ахвотай да змаганьня, як тады яшчэ ён ахвяраваў сваё маладое жыцьцё, які ён быў тады вясёлы, здаволены. А вось цяпер у яго нічога няма: ні здароўя, ні свайго жыцьця, ні сілы; ляжыць на падушцы і ўстаць навет сам ня можа.

І раптам захацелася хоць адну мінуту пажыць тым жыцьцём, мець тое пачуцьцё, што меў ён колькі гадоў назад, наставіць вочы і грудзі проціў ветру і змагацца з ім.

Яму памаглі: адзелі, пасадзілі на воз.

Сабраўшы апошнія, сілы Марка ўстаў супраць ветру, і з хрыпам і з крывёю вырвалася з горла ў яго: „Ты мяне цяпер ломіш, я падаю, але ці зломіш нашы рады?!. Ніколі“!!!

З хрыпам ён упаў,—упаў, каб больш ня ўстаць. Толькі чырвоная, як сьцягі працоўных, кроў цякла праз нос і зубы...

Марка ня ехаў: яго ўжо вязьлі!

Чэрвень—1927 г.

П. Агінскі.

